№ 1 (4)

# СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ

ГОД II

Ліпень 1931 год

АДРАС РЭДАКЦЫІ: LETNIA 12—3.

## ЗЬМЕСТ



Вільня 1931 год

ГОД ВЫДАНЬНЯ II. № 1 (4) ЦАНА НУМАРУ 40 ГР.

# СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ

ЛІПЕНЬ, 1931 г. Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Летняя 12—3

## ПРАЦЫ НЯ СПЫНІМ!

Там, у Варшаве на Прадсаборчым Сабраньні, а таксама і ў прэсе як расейскай, так і Мітрапалітальнай, ідзе барацьба за ўклад Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. У Прадсаборным Сабраньні няма аніводнага беларуса: там старанна падабраны расейскі элемэнт. А Беларусь пад Польшчай мае больш трох мільёнаў праваслаўных беларусоў і, нам здаецца, што абмінуць такога паважнага чыньніка нельга. За сваю Праваслаўную Веру у свой час Беларускі народ многа выцярпеў, і толькі дзякуючы яго адданасьці і вытрываласьці захавалася Праваслаўная Вера на Беларусі.

І Беларускі народ ясна і проста выстаўляе свае постуляты адносна ўкладу Праваслаўнае Царквы на Беларусі. Спакойна, але рашуча, мы, беларусы, трэбуем ачышчэньня духоўных установаў ад расейшчыны і беларусізацыі духавенства; на царкоўна-славянскую мову ў богаслужэньні мы не пасягаем.

Мы ня прыступім да вырашэньня пытаньня аб далейшым укладзе Праваслаўнае Царквы, як у нас на Беларусі, так і наагул у Польшчы, пакуль не правядзём у сябе неабходных рэформаў для зьдзейсьненьня выстаўленых праз нас постулятаў.

Духоўная Улада, якая знаходзіцца пад уплывам, скажам нават больш, пад гіпнозам расейскай эміграншчыны, стараецца сама сябе пераканаць, што гэтага чыньніка, трохмільённага праваслаўнага беларускага народу, ня існуе.

Але благачынскія зьезды заяўляюць, што там на вёсках, дзе звартая маса беларускага народу, ідзе абсалютны развал Праваслаўя.

Яшчэ ня так даўно рэлігійны праваслаўны беларускі народ ішоў да сваей Царквы, а цяпер у Царкве 10—15 чалавек, ды і то рэдка.

Праўда, айцы благачынныя прыпісываюць гэта апанаваньню народных масаў камуністычнымі ідэямі з іх бязбожніцтвам і нявер'ем. Дапушчаем нават і гэта.

А ці-ж гэтыя ідэі пашыраліся-б, каб селянін меў давер'я да свайго духаўніка, ішоў бы да яго са сваім сумленьнем; каб гэты самы духаўнік меў бы уплыў на свайго прыхаджаніна?

Ці-ж ня змог бы ён спаралізаваць доступ да душы селяніна камуністычнай заразы?

Але гэта агульнае абвінавачаньне беларускіх сялян у камунізьме фактычна ня мае ніякіх рэальных падставаў.

Чаму-ж айцы благачынныя не даносяць свайму „начальству“, што праваслаўныя сяляне зьбіраюцца у сьвята **каля царкоўнай агарожы,** а у Царкву ня ідуць; чаму яны крычаць свайму сьвяшчэньніку далоў расейцаў! далоў чужакоў!

Чаму там, дзе сьвяшчэньнік беларус, Царква поўная? Вось гэта найлепшы адказ, чаму пры адным слове „Сабор“ стыхійна паднялася беларуская праваслаўная інтэлігэнцыя, стыхійна паўстала першая беруская праваслаўная арганізацыя.

У даны момэнт Духоўная Улада б'е спалох, што праваслаўю пагражае небясьпека з боку уніі; нападае на каталіцтва, што яно павяло агрэсыўную палітыку проціў праваслаўя. (А яшчэ ня так даўно унійная справа у Польшчы лічылася безнадзейнай).

Духоўная Улада, чужая па духу і нацыянальнасьці беларускаму народу, абаперлася на горстку расейскай эміграншчыны, якая стаўклася у Вільні і у другіх большых местах на Беларусі.

Запаленая спазьніўшымся патрыётызмам, расейская эміграцыя ня можа пагадзіцца з тым, што Расеі даўно ўжо няма, што даўно яе замяніла С. С. С. Р., і спадзяецца, што вось настане **цуд,** і ізноў паўстане „единая і неделімая“.

Гэтая самая псыхолёгія імпульсыўна перадаецца і нашай духоўнай уладзе, што і дае ёй адвагу ігнараваць постуляты, высунутыя праз беларусаў. Дзеля гэтага ўся палітыка нашай духоўнай улады скіравана, каб акружэньне і духавенства складаліся выключна з іх прыхільнікаў і аднадумцаў. Здольнасьці, адукацыя, маральныя вартасьці ня маюць ніякай вагі. Ясна, што такая палітыка з боку эпархіяльных уладаў уносіць страшэнную дэмаралізацыю у праваслаўнае духавенства, паніжае яго духовую вартасьць і уносіць развал у Праваслаўную Царкву.

Гэная разьбежнасьць паміж духавенствам і міранамі дэмаралізуе адных і другіх, і падгатаўляе шлях для выступленьня новых чыньнікаў, якімі зьяўляюцца унія і сэктанства.

У пашырэньні уніі на Беларусі ня трэба абвінавачываць каталіцтва ў агрэсыўнасьці, а трэба спыніць усе спрыяючыя для гэтата варункі.

Пашырэньне сэктанства даказвае, што сярод нашага народу **Богашуканьне і містычная рэлігійнасьць** яшчэ ня зусім заступіліся матэр'ялістычнымі ідэямі. Праваслаўе у той форме, у якой яно цяпер існуе на Беларусі, не задаваляе больш рэлігійных патрэбаў нашага народу, і сэктанцкія вучыцялі лёгка улаўліваюць у свае сеці, **алчушчыя Божэственай ісьціны душы**.

Выхад з гэтага палажэньня пакуль што ёсьць толькі адзін: трэба аздаравіць праваслаўны царкоўны апарат, прыблізіць, зьліць яго з народам у вадно цэлае.

Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт, які стаў на варце захаваньня Праваслаўнай Веры на Беларусі, рашуча будзе дамагацца зьдзейсьненьня выстаўленых праз яго цостулятаў.

У сваіх дамаганьнях Ц. Б. П. К. больш ня думае зьвяртацца да Духоўнай Улады аб правядзеньні неабходных рэформаў у Праваслаўнай Царкве на Беларусі, а абапрэцца на народ, які змусіць Духоўную Уладу правесьці гэныя рэформы у жыцьцё.

Стварыўшаяся сытуацыя ясна даказвае, што Духоўная Улада мала цікавіцца Праваслаўем, як рэлігіяй народу. Яна больш інтэрэсуецца захаваньнем свайго самадзяржаўя над бяспраўным сельскім духавенствам, а праз гэта і надалей забясьпечыць свой дабрабыт.

З такой Уладай нам не па дарозе!

І мы да тэй пары ня спынім барацьбы, пакуль не ачысьцім Праваслаўную Царкву ад усіх шкодных і дэмаралізуючых элементаў, і пакуль не дабьемся, што Праваслаўная Вера, як выцярпеная кроўю і потам нашых дзядоў і прадзедаў не зазьзяе ва ўсей сваей Славе на нашай Бацькаўшчыне

# Адносіны да саборнасьці.

Аб саборным ладзе Праваслаўнае Царквы у Польшчы пачалі гаварыць ад пачатку незалежнасьці Польшчы. Спачатку гэтаю справаю цікавіліся толькі вузкія колы праваслаўнага грамадзянства, і, здавалася, яна не закранала інтарэсаў дзяржаўных, таму пытаньне гэта ад часу да часу усплывала толькі на старонках меншасьцёвай прэсы. У вапошнія гады хіба ня знойдзецца у Польшчы хрысьціянскае часопісі, якая-б не закранала гэтага пытаньня. З гэтага відаць, што і польскае грамадзянства неправаслаўнага вызнаньня прыдае таму ці іншаму устрою Праваслаўнае Царквы дзяржаўна-грамадзкае значэньне. У гэтым пытаньні зацікаўлены наступныя чыньнікі: 1) гіерархія, 2) Урад, 3) радавое духавенства, 4) веруючыя міране. Самымі дзейнымі зьяўляюцца першыя два: гіерархія і ўрад. Яны маюць сваю прэсу, у якой усебакова высьвятляюць справу саборнасьці Царквы з сваіх пагглядаў. Абодва гэтыя чыньнікі праконваюць нас у неабходнасьці і шчырым імкненьні да безадкладнага скліканьня Сабору. Але ня гледзячы на гэтыя пераконаньні і на тое, што скліканьне Сабору залежыць выключна ад іх, Сабор ня склікаецца, няма ведама, калі ён будзе скліканы. Прычынаю такое нявыразнае сытуацыі зьяўляюцца процілеглыя погляды на заданьне Сабору, а ў сувязі з гэтым і на склад яго сяброў.

Кожны з гэтых двох чыньнікаў, пакуль дыплёматычна у прэсавай барацьбе, стараецца забясьпечыць для сябе найбольшы ўплыў на Сабор.

Апошнія два чыньнікі—духавенства і веруючыя міране, якія становяць душу і цела Царквы, хаця масава ня выказаліся, але думкі іх ня цяжка падсумаваць. Значная большасьць веруючых міран імкнецца да запраўднага аздараўленьня праз яго царкоўна-грамадзкага жыцьця, а не замацаваньня толькі цяпер існуючых, але ўжо аджыўшых бяздушных формаў. Пры аднолькавасьці мэты гэнае імкненьне да аздараўленьня выклікае разьбежнасьць між міранамі на грун-

це нацыянальным. У той час, калі расейцы імкнуцца да захаваньня у Царкве расейскае мовы, звычаяў і формаў, накінутых нам расейскім урадам, беларусы і украінцы імкнуцца да карыстаньня ў царкоўным жыцьці сваёю роднаю моваю (славянскую мову, як богаслужэбную, беларусы захоўваюць), да сваіх старых звычаяў і традыцыяў у пераконаньні, што ўсё роднае бліжэй і даражэй чалавеку, як чужое. Таму пашырэньне і паглыбленьне хрысьціянскае маралі роднымі для народу духаўнікамі на роднай мове, пры узнаўленьні і захаваньні родных звычаяў і традыцыяў, будзе больш глыбока ўплываць на душы веруючых, і праз гэта мецъ найбалей карысныя вынікі да духовага жыцьця праваслаўных кожнае нацыянальнасьці. Хто ясна ставіць рэлігійную справу вышэй іншых, той мусіць згадзіца з цьвярджаньнем, што адданы свайму народу духаўнік, родная мова, розныя традыцыі маюць у рэлігійным жыцьці народу пераважаючае значэньне.

Мы пераконаны, што значная большасьць чэснага расейскага грамадзянства павінна згадіцца з намі, але ведаем, што ёсьць і такія, якія глядзяць на Царкву, ня як на самастойную Бажэственную установу, маючую на мэце спасеньне людзей, а як на людзкую арганізацыю, праз якую яны імкнуцца да дасягненьня мэтаў чыста зямных, „возстановленія“ былой Расеі—і глядзяць на Царкву, як на прытулак для неадпаведнага для справы чыста рэлігійнае, але падзяляючага іх палітычныя погляды, расейскага элементу.

Пару тыдняў таму, як адзін з відных віленскіх расейскіх дзеячоў адкрыта заявіў нам: „папы і Царква нас цікавяць настолькі, насколькі там знаходзяць кавалак хлеба рускія людзі.“ З людзьмі такіх поглядаў нічога супольнага мець ня можам.

Што датычыць радавога духавенства, дык толькі нялічная частка яго, найбалей ідэовая і культурная, стаіць за Сабор.

Значная-ж большасьць духавенства Сабору не жадае, больш таго: баіцца яго.

Асаблівую варожасьць пачуваюць да Сабору сябры кансысторыяў, благачынныя і іх прыслужнікі, займаючыя, часта незаслужана, найлепшыя прыходы; яны баяцца Сабору сьвядома, каб ня страціць сваіх цёплых мейсцаў. Рэшта духавенства баіцца Сабору несьвядома, таму — што зжылася з старымі формамі, і хаця-ж гэтыя формы і цяжкія для яго, хаця-ж яно і стогне ад самаўлады і зьдзекаў кансысторскіх дзяльцоў, але яго жаданьні далей зьмяншэньня кансысторскіх падаткаў і замены ненавісных яму дзяльцоў новымі асобамі амаль што не сягаюць.

Узгадаванае у старых расейскіх школах каставае духавенства яшчэ ня зжыло старых паняцьцяў і да гэтага часу разважае старарэжымнымі катэгорыямі. Маладое-ж духавенства зьяўляецца ў большасьці дзяцьмі старога, і ў выхаваньні яго захавалася яшчэ шмат старога духу.

Гэтыя старыя паняцьці, стары дух адасабляў духавенства ад народу і пазбаўляў яго якога-небудзь уплыву на народ. Адсюль часта нялюбоў, нават варожасьць духавенства да прыхаджан, а пры такіх варунках, зразумела, тая баязьлівасьць, якую выяўляе духавенства ад бліжэйшага падыходу міран да царкоўных справаў. Вынікам такога адношаньня духаўніка да прыхаджан зьяўляецца іх нялюбоў і варожасьць да свайго духаўніка. Між духавенствам і прыхаджанамі нажаль вытварыліся суадносіны, калі сьвяшчэньнік толькі церпіцца, як неабходны выканаўца трэбаў, без якой-небудзь духовае блізасьці і сувязі з сваімі прыхаджанамі. Прыхаджане не павінны жорстка асуджаць духоўніка за яго адасобленасьць, памятаючы, што вінаваты у гэтым перадусім тыя варункі, у якіх духавенства вырасла, з якімі зжылося. Расейскі ўрад, зрабіўшы сьвяшчэньніка урадоўцам, праз гэта духова адарваў яго ад народу, а каб духова перарадзіцца—на гэта трэба мець вялікую сілу волі,—але духавенства павінна знайсьці яе у сабе.

Не дзеля паглыбленьня прорвы паміж духавенствам і прыхаджанамі, не дзеля ўзаемных парахункаў і абвінавачаньняў патрэбны Сабор, а каб любоў-

на гэтую прорву засыпаць, узаемна адны другіх зразумець, прабачыць і супольна распачаць для дабра адзінае Царквы, пры захаваньні роднае мовы, традыцыяў і звычаяў кожнае нацыянальнасьці,—працу на ніве Хрыстовай.

Зразумела, што голас мяйсцовага элемэнту, як духоўнага, так і сьвецкага, павінен пераважаць на Саборы. Каб будучы Сабор мог сапраўды дасягнуць гэтае мэты, неабходна перадусім замяніць сучасны пэрсанальны кансысторскі склад з людзей нажывы, кар'еры, варожых да народу—людзьмі роднымі народу, людзьмі ідэёвымі, здольнымі для дабра Царквы і народу на ахвярнасьць, таксама зьмяніць значную частку благачынных, вызначаных сучаснымі кансысторыямі, і з новымі чыстымі людзьмі, чэсна вясьці ў такую адказную для Праваслаўя і наагул для Хрысьціянства хвіліну, выключна для дабра Царквы падгатаваўчую працу па выбару на Сабор. Перадусім, у новым складзе Кансысторыі павінны шчыра высьвятліць мэты і заданьні Сабору духавенству, звольніць духавенства ад духовага круцельства, калі гаворыцца і пішацца адно, а духавенства павінна разумець іншае, патрэбаваць, каб духавенства гэтую шчырасьць унясло ў свае суадносіны і з прыхаджанамі. Толькі пры гэтых варунках беларускае Праваслаўнае грамадзянства можа больш-менш спакойна прыняць удзел у выбарах на Сабор у пераканаўні, што Сабор сапраўды аздаровіць на вышэйазначаных падставах царкоўна-грамадзкае жыцьцё. Калі-ж гэта ня будзе зроблена, калі выбары на Сабор „будуць рабіць“ сучасныя сябры кансысторыяў, з тым, каб Сабор толькі замацаваў слабыя падпоркі, дык замест аб'яднаньня і згоды, паўстане толькі разлом у Царкве, і беларускае праваслаўнае грамадзянства пойдзе сваею асобнаю дарогаю.

*ТВЕР.*

---

# СПРАВА УНІЙНАЯ.

Справа гэтая у нас старая, а разам з тым і вечна новая. Заўсёды яна найбалей балюча закранала беларускі і украінскі народы. Вякамі вялася з-за гэтае справы між людзьмі, зьвязанымі адзінствам крыві, часта між роднымі, страшэнная духовая барацьба. А колькі праліта нашым народам сьлёз і крыві у фізычнай барацьбе, падложам якой была справа унійная!

Нацыянальная беларуская рана — падзел народу на праваслаўных і каталікоў—не залечана і да гэтай пары. Унія была і ёсьць тым лекам, якім пыталіся і пытаюцца залячыць гэтую рану. Нажаль, дахтары, якія браліся лячыць гэную застарэлую рану, былі настолькі няўдалымі, што замест вылячэньня, толькі паглыблялі яе, выклікаючы новую кравацечу.

Залежала гэта ад таго, што пытаньню, характару выключна рэлігійнага, быў надаваны шкодны для нашага народу напрамак натуры палітычнай. І гэта было галоўнай перашкодай дзеля аб'еднаньня на груньце Хрыстовага вучэньня, бо народ заўсёды вычуе няшчырасьць закуліснае работы, асабліва калі гэта датычыць яго рэлігійнага пачуцьця.

У сучасную пару беларускі народ падзелены палітычна на дзьве галоўныя часткі: адна з іх знаходзіцца пад панаваньнем ваяўнічага атэізму, а другая — праціўнага Хрыстоваму вучэньню антаганізму паміж праваслаўнымі і каталікамі. Вечны антыхрысьціянскі антаганізм і сваркі паміж двума найбліжэйшымі па духу хрысьціянскімі вызнаньнямі — праваслаўем і каталіцтвам—падгатаўляюць падатны грунт дзеля разьвіцьця і пашырэньня атэізму і яго апякуноў. Ад апякуноў атэізму бароняцца дзяржавы, а *ад атэізму—хрысьціянства.* Для перамогі над апякунамі атэізму дзяржавы лучацца ў саюзы. Што-ж павінна рабіць хрысьціянства дзеля перамогі над атэізмам?

Займацца ўнутранай барацьбой і сваркамі?.

Бачучы небясьпеку для хрысьціянства, Рым зрабіў пэўныя канкрэтныя крокі: мейсцам для змаганьня з атэізмам вызначыў Заходнюю Беларусь і Валынь і, маючы на мэце злучэньне цэркваў і вядзеньне барацьбы шырокім супольным фронтам, вызначыў на нашыя землі асобнага уніяцкага япіскапа.

Вось чаму, ня гледзячы на сваю гістарычнасьць, хіба ніколі, за выняткам Берасьцейскіх Сабораў у 1596 годзе, справа уніі не набірала на нашых землях такое вастраты, як цяпер. Каля году газэты ўсіх напрамкаў па-сваяму ацэніваюць назначэньне япіскапа Чарнецкага, які ўжо некалькі месяцаў бязупынна і бязустанна візытуе ўніяцкія прыходы, павялічваючы лік верных уніяцкае Царквы.

Так выглядае справа афіцыяльна. Ня маючы права залазіць каму-небудзь у душу, трэба прызнаць, што Апостальская Сталіца выбрала адпаведную хвіліну для узмацненьня унійнае акцыі. Праваслаўнае духавенства на Беларусі, будучы элемэнтам прышлым, чужым для народу па паходжаньню і духу, будучы ўніжана і прыдушана рожнымі сваекарыснымі кансысторскімі дзяльцамі, ніякім уплывам на праваслаўнае грамадзянства не карыстаецца. Разрозьненае, замучанае кансысторскімі падаткамі змушанае прымусова спаганяць гэтыя падаткі з прыхаджан, духавенства ўсё балей і балей аддаляецца ад народу, а пры такіх варунках на сур'ёзную барацьбу з уніяй яно ня здольна.

Чакаць-жа нейкае ініцыятывы ў гэтым пытаньні ад кансысторскіх „дзеячоў", якія крытыку іх „дзеяльнасьці" лічаць раўнаважнай разбурэньню Праваслаўя, ня прыходзіцца.

Рым-жа, здаецца, на гэты раз рашуча ставіць унійную справу на новы грунт. Аб гэтым сьведчыць вызначэньне на япіскапа—чалавека мясцовага, украінца па паходжаньню. Да гэтае пары справа унійная не дасягала мэты галоўным чынам таму, што яе праводзілі людзі чужыя для нашага народу, пераважна езуіты, якія мелі на мэце ня самую унію, а праз яе лацінізацыю, а іх саюзьнікі польскія чыньнікі, і полёнізацыю народу. Праз гэта ідэя уніі на доўгія гады была пахавана у нашым народзе, і нават самае слова „унія" стала нейкім пугалам.

Ад правідловае пастаноўкі гэтае справы ў сучасную пару аканчальна залежыць яе будучыня: унія або прыўецца у Беларускім народзе, або аканчальна і безпаваротна замрэ, каб ужо ніколі не ўваскрэснуць.

Такі лёс яе будзе тады, калі, як і раней будуць праводзіць езуіты, або нават закулісна толькі дапамагаць у гэтай справе, якія гістарычна ўжо столькі разоў унійную справу хавалі.

Беларускае Праваслаўнае грамадзянства, якое становіць 80% усяго беларускага народу, зацікаўлена у тым, каб яго будучыня будавалася на падставах хрысьціянскае моралі, але прыймаючы пад увагу яго сучаснае нацыянальнае усьведамленьне, трэба прызнаць, што для яго цяпер балей, чым калі-небудзь у мінулым, ня прыемлема ні лацінізацыя і зьвязаная з ёю полёнізацыя, як роўна праз Царкву і русыфікацыя. Але для агульнае рэлігійна-нацыянальнае згоды, яна імкнецца да залячэньня сваей старое балючае раны, і пры варожасьці адносінаў да яго нацыянальнага адраджэньня сучаснага складу праваслаўнага духавенства з аднаго боку і пры захаваньні ненарушымасьці канонаў і абрадаў Праваслаўнае Царквы, пры пашане і падтрыманьні нацыянальнага адраджэньня, пры увядзеньні у царкоўнае жыцьцё роднае мовы, пры назначэньні на пасады духаўнікоў-беларусаў па духу і крыві, выключна з мэтаў чыста рэлігійных, памінаючы ўсякую палітыку — беларускае грамадзянства можа і павінна прызадумацца над пытаньнем: з кім яму ісьці? Тым балей, што яшчэ ня так даўно унія была вераю беларускага народу.

*У. Б.*

# НА НОВЫЯ ПАЗЫЦЫІ.

У першыя тры стагодзьдзі хрысьціянскае эры хрысьціянскія духоўнікі ня толькі не атрымлівалі ад ураду матэр'яльнае дапамогі, а цярпелі страшэннае прасьледаваньне ад рымскага ураду, будучы змушаны хавацца па катакомбах. Утрымоўваліся яны веруючымі і ўласнаю працаю. Ніякая, ня супярэчная хрысьціянскай маралі праца, не зьняважала духаўнікоў. Яшчэ сьв. апосталы займаліся рыбалоўствам, сталярствам, а апостал Павал у часе свайго падарожжа па распашырэньню хрысьціянства навучыўся рабіць будкі, якія прыкрывалі падарожнікаў ад сонечнае сьпякоты. Але галоўнаю крыніцаю утрыманьня духавенства былі складкі веруючых. Ня гледзячы на адстутнасьць матэр'яльнага падтрыманьня і страшэнную варожасьць да хрысьціянскіх духаўнікоў з боку ураду, ніколі хрысьціянства так не пашыралася, ніколі ня было такім чыстым і сьвятым, ніколі не дало столькі мучанікаў, і таму праца духавенства ніколі ня была так удзячна, як у першыя тры стагодзьдзі па Узьнясеньні Хрыста на неба.

З абвешчаньнем праз Канстанціна Вялікага хрысьціянства рэлігіяй дзяржаўнай зьмянілася становішча і духавенства: яно стала матэр'яльна і маральна падтрымлівацца урадам. Жыцьцё пабудавана так, што ніхто нікому нічога не дае дарма. За падтрыманьне духавенства дзяржаўная ўлада патрэбавала ад яго пэўных компэнсацыяў, выкананьня тых ці іншых абавязкаў дзяржаўнага характару, часта ня маючых нічога супольнага са справамі рэлігійнымі, і такім чынам паступова духаўнік станавіўся урадоўцам. Яго сэрца перастала абаграваць веруючых Хрыстоваю любоўю ў папярэднем абыйме, а розум разважаў спосабы, як найлепш дагадзіць урадоваму хлебадаўцу. Высілкі духавенства часта пакладаліся не на распашырэньне і паглыбленьне Эвангельскае маралі, а на здабычу ласкі „сільных міра сего". Гаспадаром у справах царкоўных стала улада дзяржаўная. Так было пераважна у ўсходняй частцы рымскае дзяржавы Такую спадчыну атрымала з Візантыі і расейская царква. (Цэзарапапізм).

Залежнасьць духавенства і царквы ад ураду дасягнула нябывалае ступені. За паслухмяную службу ўраду духавенства нагароджывалі рознымі пабракушкамі (цацкамі), мэдалямі, праз што балей і балей адрывалі яго ад сьвятых абавязкаў—айцоўскае апекі над духовымі дзецьмі. Праўда, бывалі моцныя духам, ідэёвыя адзінкі сярод вышэйшага і ніжэйшага духавенства, якія пратэставалі процiў такога парадку, але іх рассылалі за гэта па далёкіх, глухіх манастырох. У выйгрышу ад такога палажэньня духавенства быў толькі урад, ды трохі духавенства—матэр'яльна. Маральная-ж вага духавенства была страчана канчальна. Яно адарвалася ад народу, страціла духовую сувязь з ім, страціла свой гонар і пашану, стаўшы звычайным выканаўцам абавязкавых трэбаў. У народным сазнаньні да духавенства, як да агэнтаў ураду, злажылася варожасьць. Царкве Хрыстовай праз гэта быў нанесены больш жорсткі удар, як ганеньнямі Дыаклецыяна, Нэрона і інш. Такую-ж сумную спадчыну атрымала ад расейскай і польская прав. Царква.

Для матэр'яльнага быту духавенства, да якога яно прызвычаілася, наступаюць чорныя дні. Соцыялістычныя ўрады большасьці дзяржаў рэлігійнымі справамі і духавенствам ня цікавяцца, некаторыя выступаюць адкрыта супроць рэлігіі і духавенства. Абставіны змушаюць яго вярнуцца на грунт духовае блізасьці, супрацоўніцтва з веруючым народам і апоры на яго, з якога духавенства зыйшло яшчэ пры Канстанціне Вялікім. Гэта адзіны запраўдны звычайны і моцны грунт духоўніка, які яго ніколі ня здрадзіць.

Паўстае пытаньне, ці наша духавенства у Польшчы падгатавана стаць на гэты грунт? З сумам трэба адзначыць, што менш, чым у якой-небудзь іншай краіне.

А між тым варункі вымагаюць безадкладнай працы ў гэтым напрамку.

У сучасны мамэнт духавенства у Польскай дзяржаве матэр'яльна падтрымоўвыецца ўрадам у відзе вельмі нязначнай так звэн. датацыі, зямельных надзелаў і галоўным чынам у відзе платы прыхаджанамі за трэбы: хрышчэньне, шлюбы і хаўтуры, што вынікае з узложанага на духавенства абавязку весьці мэтрычныя кнігі. Гэтае палажэньне вельмі хутка можа зьмяніцца, не гаворачы ўжо аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы, калі духавенства напэўна страціць dotacji і зямельныя надзелы, даволі толькі звольніць духавенства ад абавязку дзяржаўных функцыяў вядзеньня мэтрычных кнігаў, адпаведны закона-праект аб чым ужо знаходзіцца у законадаўчых установах. У такім выпадку цяжкае матэр'яльнае становішча духавенства, стане немагчымым. Каб не апынуцца ў ім, духавенства, пакуль яшчэ ёсьць час, павінна духова зблізіцца з народам, заваяваць яго давер'е і пашану, быць ня ворагам яго, як нажаль гэта цяпер ёсьць, а першым прыяцелем ува ўсіх справах і правадыром, спаганяць ня прымусова платы за трэбы, а працаваць над усьведамленьнем народу, каб утрыманьне духавенства народ лічыў сваім абавязкам, як у першыя стагодзьдзі Хрысьціянства. Але гэта для духавенства, асабліва старэйшага, ня цяжка, але яно павінна духова перарадзіцца. Павінна зьліцца з народам духова і нацыянальна, павінна хварэць яго хваробамі і радавацца яго радасьцямі. Гэтага вымагае ад духавенства яго асабісты дабрабыт, шчасьце нашага народу і дабро Царквы. Асобы, якія сваю асабістую выгаду ставяць вышэй дабра Царквы, шчасьця народу і агульнага дабрабыту, духавенства, утрымоўваючы яго ў сучасным палажэньні адарваным ад народу, каб не наклікаць на сябе суровую кару Божую, праклацьце і помсту народу, павінны безадкладна ухіліцца з сваіх становішчаў.

*Табальскі.*

# Агляд дзеяльнасьці Ц. Беларус. Праваслаўнага Камітэту па беларусізацыі Праваслаўнае Царквы.

Цяжкая праца выпала на долю Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту ў першы год яго існаваньня. Хоць тыя людзі, якія ахвярна прынялі на сябе абавязкі сяброў ураду Камітэту добра ведалі, што іх дарога ня будзе усеяна кветкамі, але столькі церняў не спадзяваліся.

Паўстаньне Ц. Б. П. К. расейская газэта „Наша Жизнь" прывітала ваража і пыталася сдыскрэдытаваць і скампрітаваць ня толькі Камітэт, але нават самую ідэю беларусізацыі Праваслаўнае Царквы. Фактычна да гэтага прылажыла сваю руку Віленская Духоўная Улада, якая у той час субсыдыявала газэту „Наша Жизнь".

Ц. Б. П. К. да сваей працы падыйшоў зусім шчыра.

У абшырных мэморыялах на імя Яго Блажэнства Мітрапаліта Дзяніса, і усваей часопісі „Сьветач Беларусі," Ц. Б. П. К. высьвятліў стварыўшуюся сытуацыю у Праваслаўнай Царкве на Беларусі, і высьніў, што толькі карэнныя рэформы змогуць аздаравіць Царкву і абараніць яе ад пэўнага развалу.

Але высунутыя постуляты ў корань падрывалі устанавіўшыся уклад у нашых кансысторыях, змушалі цяперашніх кіраўнікоў адыйсьці ад улады і даць мейсца новаму элемэнту—беларускаму, запраўдна царкоўнаму. Ясна, што Духоўная Улада, якая да гэтых пор самадзяржаўна запраўляла Царкоўным жыцьцём, на гэта не пайшла, і Ц. Б. П. Камітэту прышлося з ёй парваць і скіраваць сваю дзеяльнасьць на нізы духавенства і ў народ.

У народзе даўно ужо адчувалася патрэба зьмены існуючага status quo у Царкве.

Бо фактычна зьяўляецца анормальным і нелёгічным, каб народ і духавенства былі зьвязаны паміж сабою адным толькі Культам. Павінна быць больш цесная, больш кроўная сувязь! Царква трымаецца на верных, няма верных—няма Царквы!

А нашая духоўная Улада старалася ігнараваць самыя неабходныя патрэбы беларускай паствы, не прызнаючы нават за Беларускім народам права на нацыю, і адносячыся да ўсяго беларускага з пагардаю.

Радавое сельскае духавенства трымаецца сваей эпархіяльнай уладай у чорным целе; самаупраўдзтва з аднаго боку, прыніжанасьць і абсалютная бязпомачнасьць з другога, характэрызуюць суадносіны духоўнай улады і радавога духавенства.

Доказам гэтага могуць служыць рэзолюцыі і пастановы, якія быццам выносіла сельскае духавенства на Ц. Б. П. К. і яго сяброў.

Ц. Б. П. Камітэту добра ведама, што усе гэныя рэзолюцыі падпісываліся пад прымусам і пад пагрозаю у разе адмовы быць пазбаўленым прыходу, а нават панесьці і больш срогія кары.

Радавое духавенства падпісывалася, а на другі дзень пасылала ў Ц. Б. П. К. пакутныя лісты з прозьбаю прабачыць ім гэты крок і з падрабязным апісаньнем, як гэта адбывалася.

Не дабіўшыся нічога ад духоунай Улады Ц. Б. П. К. зьвярнуў ўсю сваю увагу на царкоўна—нацыянальны элемэнт у народзе, і тую частку радавога духавенства, якое адчувала сваю кроўную сувязь з народам.—

Ц. Б. П. К. прылажыў усе свае высілкі на зарганізаваньне царкоўна-нацыянальнага элемэнту па прыходах, каб праз іх пашыраць і праводзіць у народзе свае мэты і імкненьні.

З другога боку, стараўся увайсьці у цесны кантакт з тым радавым духавенствам, якое адчувае кроўную сувязь з роднаю яму беларускаю паствою, каб хоць у гэтых прыходах утрымаць сьв. Праваслаўе ад развалу.

Адным з самых балючых мейсц нашае Праваслаўнае Царквы-гэта прымус прыхаджаніна плаціць за трэбы свайму сьвяшчэньніку досыць высокую плату. Хрысьціны, вянцы, хаўтуры другога беднаго селяніна даводзяць проста да руіны.

Гэта звычай, які застаўся яшчэ ад сярэднявечча, павінен быць зьменены, бо пасьля кожнай такой трэбы, асабліва пры цяперашнім эканамічна-гаспадарчым крызысе, у селяніна на доўгі час застаецца незадаваленьне на сьвяшчэньніка, а гэта у сваю чаргу адбіваецца на яго прывязанасьці да Царквы.

Селянін лічыць, што сьвяшчэньнік, бяручы ад яго заплату за трэбы, абдзірае яго—пачынае таргаваца з ім, усё гэта разам выглядае быццам якаясьці крамка, што ніяк ня вяжацца з павагаю Царквы і яе Служыцеля. Фактычна прыходскі сьвяшчэньнік ня так тут ужо і вінаваты, бо большасьць гэтай платы ідзе на Кансысторыю, якая паміма таго, што адносіцца воража да Беларускага народу, а што яшчэ гарэй, ніколі не здае публічнай справаздачы, куды дзяюцца гэтыя народныя грошы, дабытыя потам і цяжкаю працаю.

У барацьбе з гэтым зьявішчам Ц. Б. П. Камітэту шмат памаглі аднаднёўкі, выданыя паміма Камітэту больш радыкальнаю часткаю беларускага праваслаўнага грамадзянства, у якіх выявілі, хоць і у надта вострым тоне, але яскрава праўдзівыя твары кіраўнікоў нашае Віленскае Духоўнае Кансысторыі. Пасьля гэных аднаднёвак селянін пачаў з большай асьцярожнасьцю плаціць сваім бацюшкам за трэбы, і такім чынам можам мець надзею, што гэты звычай, як падрываючы павагу Царквы, нарэшце сам сабою скасуецца.

У даны мамэнт Ц. Б. П. Камітэт з большай энэргіяй распачынае сваю працу над зарганізаваньнем сьвядомага царкоўна-нацыянальнага элемэнту беларускага народу і заклікае ўсіх тых сьвяшчэньнікаў, якія не парвалі кроўнай сувязі з родным ім беларускім народам, падыйсьці бліжэй да народу, ня цурацца яго мовы і памагчы Ц. Б. П. Камітэту ў яго высілках ўратаваньня Праваслаўнае Царквы на нашай Бацькаўшчыне і абараніць Яе ад ворагаў Правас-

# АДКАЗ „СТАРОМУ ІЕРЕЮ ЮС'У“.

(„Воскресное Чтеніе № 24“).

Не хацелася-бы нам адказываць на гэткі „навуковы трактат“ старога чалавека, які расчуліўшыся пры ўсплыве ўспамінаў „о добрых временах под скипетром батюшки-царя і благодетеля Мурав'ёва“ задумаў на старасьці годоў запратэставаць на ўвесь сьвет супроць факту існаваньня Беларусі і акцыі беларусізацыі Пр. Царквы на Беларусі. Аднак робім гэта дзеля таго, што артыкул гэты зьмешчаны ў „Воскресном Чтеній“, які вельмі блізка стаіць Мітраполіі. Калі-б гэта выдавалася недзе заграніцай, ня быў-бы гэты артыкул настолькі камічным і мы прайшлі-бы каля яго моўчкі, як пераходзім моўчкі ў сотні выпадках каля гэткае пены злосьці на паваенныя „несправядлівасьці“. І вось у гэтым артыкуле мы спатыкаем гэткія сказы: „Што датычыць радавога духавенства (да вайны), дык яно, у малых вынятках, наскрозь было „от плоти и крови белорусскаго порода“. Ды і наагул нейкіх штучных разьдзелаў і нацыянальных перагародак (калі, зразумела, асобныя плямёны „русскаго народа“ можна прадставіць сабе, як адасобленыя нацыянальнасьці; я асабіста гэтага не дапушчаю)“, якія жадаюць п. п. Вернікоўскіе стварыць, ніколі да вайны не існавалі, бо тады і „велікароссы“ і „белоруссы“ і „малороссы“ аднолькава лічылі сябе „русскими“, і дадзенай асобе, як гэта хочуць некаторыя ўгаварыць няпрошаныя „радетели белорусскаго народа“, ня ставілася ў віну тое, што яго прозьвішча канчалася на „ич“, або на „о“ замест—„ов“. Так паважаны протаіерэю „Юс“, усё добра, толькі вы ужо забыліся, што ў гісторыі Ілавайскага, дзе перачысьляючы плямёны „единой-нецелимой“, быў таксама уцягнуты ў лік „искони русских“ зямель і „край“ западно-прывисьлянскій“. А лепшыя сыны гэтага краю, прозьвішча якіх акурат канчаліся на „о“ і на „іч“, якраз перад вайной былі тыранены і мусілі адгэтуль уцякаць! Вы забыліся, гэто хіба? Нічога, прыпомніце. І вось, сяньня вы якраз пражываеце у гэтым-жа „западно-прывісьлінском“ краю, які некалісь быў „іскони-русскім“, а сяньня вольнай рэспублікай Польскай, якая констытуцыйна „белоруссов“ і „малороссов“ прызнала за нацыі, як гэта зрабіў і наагул увесь культурны сьвет, апроч „старых іереев и их детишек“. „Благодетель Іереев“ Мураўёў таксама ненавідзеў і „белоруссов“, і „малоруссов“ і „Западно-Прывіслінскій край“. Ды гэтаму ня дзівіліся! Аднак вам іерею падаўно ня любіць і „белоруссов“ і „западно-прывісьлінцев“, якія сяньня даюць вам хлеб і спакой (бо „в единой-неделимой“ цяпер для „іереев“ ня зусім супакойна) і пену сваю варта схаваць, каб ніхто яе і ня бачыў. Ды ўрэшце-ж Сынод Пр. Царквы у Польшчы правеў (Вы хіба чулі) украінізацыю Пр. Царквы на Украіне. Няўжо вам здаецца, што Сынод, ад якога вы крыху залежыце, зьяўляецца здраднікам „русского народа“ і пачынае быць „непрошеным радетелем малоруссов?“ Калі-ж Сынод Пр. Царквы ў Польшчы правеў украінізацыю Пр Царквы „малороссов“, а ня хоча падобнага учыніць з Царквой на Беларусі, ня ведама з якіх прычын, дык п. п. Вернікоўскіе, якія за гэта ўзяліся, будуць гэткімі-ж „радетелямі непрошенымі“, як у папярэднім выпадку Сынод. І таму, калі Вы выступілі супроць адных „непрошеных радетелей“, дык лёгічна павінны былі-бы зрабіць тое самае і адносна другіх! Нас толькі вельмі дзівіць, скуль столькі... „адвагі“ у рэдакцыі „Воскр. Чтенія“ друкаваць падобныя рэчы! Будзь гэта нешта падобнае ў часы, калі „і велікоруссы, і малороссы одінаково сознавалі себя русскімі“, то напэўна аўтар гэткага адважнага „трактату“ разам з рэдактарам лаўя, якія, як чорныя крукі, з усіх бакоў паграҗаюць нашай прадзедаўскай Веры.

У. Б.

яго, будзь яны нават япіскапамі, апынуліся-бы ў Сыбіры!

А цяпер варта адным махам адказаць і на рэшту гэтага „трактату“. Перадусім хай „старому іерэю“ не здаецца, што мы ня ведаем аб радзе „Епіскопов-белоруссов“. Мы добра ведаем, хто былі такія: Віктар (Садковскій), Варлаам (Лящэвскій), Міхаіл (Голубовіч), Мітрофан (Красносельскій). І цяпер яшчэ маем такіх „белоруссов“. Мы таксама ведаем, што пры выбары духоўнікоў у нашы землі „і духовная і гражданская власть руководствовалась в данном случае не прізнакамі національності в отношеніі того іли другога ліца, а соображеніямі і інтересамі пользы дела“. У тым то і была наша трагэдыя, што духаўнікі гэткія ня цікавіліся царквой а „інтересамі пользы дела“ пры русыфікаваньні краю і пільнаваньні разам з жандармамі „благонадежності пасомых“. І ня дзіва, далей стары іерей кажа, што і за вайну і сяньня „нас (іх—старых іереев) ругалі і поносілі все, кому вздумается...“ Людзей, якія прыкрываліся расамі, а разам з тым зьяўляліся агэнтамі жандармаў і Мураўёва, за мала было і ёсьць лаяць! Мы таксама ведаем, што гэткім старым іереям „была установлена за 35 летнюю службу (?).. пенсія, в размере 300 руб. в год“. Так, былі гэтай пэнсіяй абдараны і рэшта духаўнікоў „на всей территоріі б. российской імперіі“, але толькі перад самай вайной, у час, калі ўся „територія б. росийской імперіі“ пачала рэвалюцыйна бурлець і патрабаваліся гэткія-ж самыя духоўнікі-жандармы, якімі здаўна былі перапоўнены тэрыторыі („ветві одного русскаго народа!“)—„белоруссов“, „малароссов“ і „западно-прівіслінцев“. Мы гэта ўсё добра памятаем! Вы, стары іерею, пералічаеце яшчэ некаторыя факты, але ці-ж варта іх сяньня разглядаць. Усе-ж добра ведаюць, якія грошы урад расейскі адпускаў на школы прыходскія, колькі ў сэмінарыях духоўных вучылася дзяцей асобаў сьвецкіх. Усе таксама добра ведаюць, што Вы (як гэта і Вы гаворыце): „Зачастую былі единственнымі носітелямі культуры“, адно вельмі дзіўна, што народ людзей, якія нясуць культуру пераважна глыбока шануе, а Вас чамусьці лаяў (як гэта Вы самі прызнаеце). Відаць „белоруссам і Западно-прівіслінцам“ чамусьці не падабаліся „носітелі“ жандармскай культуры! Чамусь таксама пасьля гэтага вашага нашэньня „культуры“ увесь сьвет культурны сьмяецца з гэтай „культуры“, а старыя людзі сяньня жывучыя, аб'ект вашага насаджаньня „культуры“, зьяўляюцца найбольш бязкультурнымі людзьмі. Мы добра ведаем, што Вам шкада тых часоў непаваротных, калі „насаджываньне“ гэткае „культуры“ вам давала зыскі ў тысячы рублёў. Мы ведаем таксама, што у Піншчыне вялікія балоты і цяжка жыць культурнаму сьвяшчэньніку. Чулі мы таксама, як зьгінуў у балотах два гады таму назад с. Т. Гейхрох; і ведаем у *якіх абставінах*! Вы пішаце далей „...што та паства совершенно свободно і легко понімала нас (па расейску); во всяком случае — гораздо лучше, чем язык того-же „мэморіала“, теперешніх белорускіх газет, кніг і проч.“ Згаджаемся з Вамі! Акрэсьленьне „неблагонадежный“ кожны разумеў, (хто хацеў разумець ці не хацеў) і кожны стараўся яго добра „понять“, і таму „усердно“ слухалі вашых прамоваў па расейску, пераплеценых славянскімі цытатамі. На жаль вялікі толькі, што пасьля вашых прамоваў паўставалі гэткія дыспуты ў вашай пастве: „Скажы, братка, што гэта ён казаў — „озлоблен бых і сміріхся до зеля“ — „Ды дурны-ж ты брат, ты перакруціў бацюшкі сказ, ён казаў—у аглоблях бык і павялі да сяла!“ Сьмешна, але разам і балюча! Гэтак, стары іерею разумела вас ваша паства. А выпадкаў такіх тысячы!!! А калі вы цікавы, хто даў права „непрошеным радетелям“ выступаць ад імя усяго беларускага народу, дык можам вам сказаць—маральны абавязак хрысьціяніна, вымагаючы ад кожнага стаяць на старожы чысьціні законаў Хрыстовых. Гэты абавязак змусіў нас, асобаў, выбраных народам, выдаць мэморыял, які гэтак вас абурыў, каб запабегчы пладом вашае культуры і навучаньня, якія цяпер можам абсэрваваць у Сав. Расеі, дзе вашая паства

# НЕРАЗВАЖНЫ КРОК.

У газэце „Dziennik Wileński“ зьявіўся ліст а. пратаіерея, доктара Аўгеня Ружыцкага, у якім ён паведамляе Архіяпіскапа Хвядоса аб сваім адыходзе ад Праваслаўя і аб пераходзе ў Унію. А яшчэ нядаўна а. Аўгень Ружыцкі быў шчырым барацьбітом за Праваслаўе у Віленскай эпархіі. Нямала палажыў сваей працы на ўзмацненьне Праваслаўя і падняцьце рэлігійнасьці ў сваім прыходзе: Адным з больш яскравых яго чынаў на ніве Праваслаўнай—гэта было пабудаваньне Царквы у м. Іжы. Духоўная Улада не магла не ацаніць яго працы і адданасьці Сьв. Праваслаўю. Малады яшчэ сьвяшчэньнік атрымаў ўсе нагароды, аж да наперснаго крыжа з аздобамі.

З газэты „Наше Время“ даведываемся, што гэтая самая Духоўная Улада, якая яшчэ нядаўна нpropаграджала а. Ружыцкага за яго няспынную і пладатворчую працу у Славу Праваслаўнае Царквы, радуецца цяпер, што пратаіерэй Ружыцкі пакінуў лоно Праваслаўнае Царквы і перайшоў ў Унію.

Чаму-ж гэта усё сталася?

Таму, што а. Аўгень Ружыцкі, як чалавек інтэлігэнтны, з вышэйшай адукацыяй, добра разумеў, што сьвяшчэньнік у сваім прыходзе не павінен быць толькі жрэцом праваслаўнага культу. а павінен блізка падыйсьці да сваей паствы, зьліцца з ёю духова. Сам украінец па паходжаньню а. Аўгень Ружыцкі прымыкае да беларускага Праваслаўнага Камітэту. У Іжанскай парафіі паўстае першы прыходскі беларускі Праваслаўны Камітэт, як філія Цэнтральнаго Беларускаго Праваслаўнага Камітэту па беларусізацыі Праваслаўнае Царквы.

Гэтага было досыць, каб Духоўная Кансысторыя пачала лічыць а. Ружыцкага за чалавека небясьпечнаго для сябе.

Нашая Духоўная Кансысторыя, узгадаваная у жандармска-царска-расейскім духу, не запоўніўшы яшчэ сваіх даваенных мэтадаў, абвінавачывае а. Ружыцкага у дваежонстве, пераказвае справу пракурору, а сама тым часам пазбаўляе яго сану.

Гэтае безпадстаўнае абвінавачаньне пракурор адкідае, справу ліквідуе з-за адсутнасьці дадзеных, а Уніяцкая Царква ахвотна яго прымае, бо прыймае да сябе аднаго з самых здольных і энэргічных сьвяшчэньнікаў, духоўніка з праконаньня.

І вось такога сьвяшчэньніка, толькі за тое, што ён ня мог пагадзіцца з русыфікатарскім кірункам Віленскае Духоўнае Кансысторыі, гэтая самая Кансысторыя змушае перайсьці ў Унію.

Рэлігійнасьць у народзе падае, атэізм бязбожніцтва ўсё больш і больш апановываюць масы народныя, і такі сьвяшчэньнік, як а. Ружыцкі, духоўны з паваланьня, бязумоўна ня спыніць сваей працы па ўзмацненьню веры ў Бога ў народзе, і разчараваны у Праваслаўі, будзе пашыраць Унію. Трэба падкрэсьліць, што а. Ружыцкі у Вілейскім павеце чалавек надта папулярны і уплывовы, і бязумоўна пацягне за сабою народныя масы. Вышшая Духоўная Улада кідае цяпер ўсе свае высілкі на барацьбу з Уніяй, абедзьве Мітрапалітальныя газэты запоўнены артыкуламі проціў Уніі, а нашая Віленская Духоўная Кансысторыя, сваім самадзяржаўем у адносінах да радавога сельскага духавенства і сваім русыфікатарствам у адносінах да беларускага народу—заганяе ў унію і духавенства і народ.

Да якой-жа ж пары мы, беларусы, будзем цярпець гэны зьдзек!

Ці ня прыйшла пара сказаць самадзержцам з Кансысторыі: Адыходзьце! мы, праваслаўныя беларусы, хочам застацца праваслаўнымі.

*У. Б.*

---

паліць цэркви, прафануе ўсё сьвятое і паўстае супроць Бога. (Працяг будзе).

*В. Борвіч.*

# ЛІСТ.

Прашу гэтым ветліва рэдактара „Сьветач Беларусі“ не адмовіць надрукаваць наступнае.

„Будучы хрысьціянінам, ворагам усялякага бязьверра, я, працуючы, як сэкрэтар Ц. Б. Пр. Камітэту, рашуча выступаў і выступаю супроць сучасных кіраўнікоў Віл. Эпархіі, якіх уважаю за галоўную прычыну разьвіцьця на нашых землях бязьверра, сэктанства і маральнае распушчанасьці. Ведаючы аб усей нягоднай рабоце некаторых „пастыраў, я выдаў у прошлым годзе аднаднёўку „Проч з ліхазельлем“ думаючы, што раскрыўшы перад народам увесь іх бруд, „пастыры“ гэтыя спыняць сваю работу і дадуць магчымасьць людзям чыстым, сапраўдным пастырам, паправіць зробленае зло. Выдаў я гэту аднаднёўку ня як сэкрэтар Камітэту, а зусім прыватна, нават без паведамленьня аб гэтым рэшты сяброў Камітэту. Прыкрыўся тады я прозьвішчам рэдактара Юшкі, каб не зашкодзіць працы Камітэту, які яшчэ верыў у прызваітасьць гэтых людзей. Сяньня, калі я ўбачыў, што гэтыя людзі нагэткі тоўстаскурыя, што нават ня хочуць выкрыць сапраўднага рэдактара аднаднёўкі, каб пацягнуць яго да адказнасьці за абразу іх, я таксама, як і перад судзьдзёю сьледчым і перад народам, адкрыта прызнаўся у выданьні аднаднёўкі „Проч з ліхазельлем“. Гэтым я хачу сказаць усяму сьвету, што аднаднёўка ня была зложана з выдумак і манлівых інсынуацыяў, а з праўдзівых фактаў, якія я гатоў даказаць перад судом. А нават балей. Я на гэтым мейсцы публічна асьведчываю, што фактычным рэдактарамам другое аднаднёўкі „У імя праўды“ быў таксама я. Дзеля таго, што абедзьве аднаднёўкі падавалі гэткія факты, якія мусяць нават чалавека малаганаровага абразіць у выпадку няпраўды іх, я гэтым прачу асобы, чуючыся абражанымі, пацягнуць мяне да судовай адказнасьці, каб сьцьвердзіць іх праўдзівасьць, інакш і я і беларускі Пр. народ, як і наагул увесь сьвет, будуць мець яшчэ раз лішні доказ лічыць асобы, парушаныя ў аднаднёўках, за людзей, якімі іх прадставілі аднаднёўкі.“

*З пашанай, Сарока.*

---

*Увага рэд.* Прыймаючы гэты ліст на старонкі сваей часопісі, нам нарэшце удаецца падняць заслону над таямніцаю аднаднёвак. Аўтар і выдавец аднаднёвак, гр. Сарока, адкрыта выступае, ня толькі заяўляючы аб гэтым публічна у прэсе, а нават прапануе прыцягнуць яго да судовай адказнасьці, калі хто лічыць сябе абражаным. Да гэтай пары сябры кансысторыі са злым умыслам прыпісывалі выданьне аднаднёвак найбольш небясьпечным для іх ціхаго і спакойнага існаваньня або Праваслаўнаму Камітэту ў цэлым, або старшыні яго, гр. Т. Вернікоўскаму, ці нават беларускаму сьвяшчэньніку А. Каўшу, які ў склад Камітэту не ўваходзіць. Цяпер якраз час успомніць тыя трох-аршынныя артыкулы у газэце „Наша Жизнь“, якая блізка стаяла да Кансысторыі і ў якой супрацоўнічалі кансысторскія вураднікі, як напр. Д. Бохан. Інсынуацыя, ілжа і клевета на Камітэт у цэлым і асабліва на старшыню яго, Тодара Вернікоўскага, што быццам яны разваліваюць сьв. Праваслаўе, падрываючы аўтарытэт гіерархіі сярод насяленьня, цяпер выступаюць у вадпаведным сьвятле.

Бо ў аднаднёўках каб хто і хацеў, то не знайшоў-бы, што аўтар пасягае на Праваслаўе.

У аднаднёўках высьвятлены па заяўленьню аўтара „праўдзівыя твары“ кіраўнікоў Віленскае Духоўнае Кансысторыі. Колькі у гэтых біографіях ёсьць праўды, мы пакідаем на сумленьні аўтара, тым балей, што ён сам прапануе абражаным асобам пацягнуць яго да судовай адказнасьці.

Калі хоць каліва праўды ёсьць у тым, што напісана у аднаднёўках пра Кансысторыю у цэлым, то ясна стане, што разваліве сьв. Праваслаўе не Камітэт, а тыя, хто стаіць на чале нашае эпархіі. А што-ж цяпер зробяць сябры Кансысторыі з тымі пастановамі і рэзалюцыямі, якія па іх загаду выносілі быццам благачынныя зьезды на правінцыі?

Як цяпер выглядаюць, асобы падпісаўшыя гэтыя пастановы?

Былі-ж такія „ретивыя“, што дамагаліся адлучэньня ад Царквы і перадачы анафеме Камітэт у цэлым з яго старшынёю Т. Вернікоўскім, якія прапанавалі пазбавіць сана сьв. Каўша, каторы

быццам блізка стаіць да Камітэту і каторы быццам ёсьць галоўным вінавайцаю выданьня аднаднёвак. Бязумоўна, і *Камітэт і старшыня яго,* Т. В*ернікоўскі, і сьв. а. А. Коўш не павінны гэную справу ліквідаваць, а з свайго боку пацягнуць да судовай адказнасьці, як інспірантаў клеветы, так і самых вінавайцаў.*

Аўтар аднаднёвак, малады студэнт Сарока, бязумоўна чалавек ідэёвы, бо ніхто яго ня змушаў прызнавацца да выдавецтва, і аўтарства, і ён лёгка мог бы закрыцца псэўданімамі „Юшкі“ і „Бельскага“.

Але як ідэйна аддзаны сваей Праваслаўнай Царкве і як верны сын Бацькаўшчыны, Сарока ня мог больш цярпець такога зьдзеку і самаволі, якія пануюць у нашай эпархіі.

Выступіўшы у прэсе проціў кіраўнікоў Кансысторыі, ён зусім не пасягаў на сьв. Праваслаўе, не разваліваў яго, як гэта тлумачылі сябры Кансысторыі і іх акружэньне, а выданьнем сваіх часопісаў хацеў толькі высьвятліць, што, калі кіраўніцтва Царкоўным жыцьцём і надалей застанецца у руках такіх неадпаведных адзінак якімі зьяляюцца цяперашнія сябры Кансысторыі, дык Праваслаўю у нашай эпархіі пагражае вялікая небясьпека.

Тут мы не ўваходзім у ацэнку самых аднаднёвак, дапушчаем, што тон гэтых аднаднёвак за востры, але, прыймаючы пад увагу запал ідэёвай маладой душы, каторая не змагла сьцярпець тэй самаволі, зьдзеку, якія пануюць у высшай духоўнай установе нашае эпархіі, не змагла сьцярпець той „моралі“, якою адзначаюцца кіраўнікі гэтай установы, — можам зразумець гэтае выступленьне. Прапазыцыя абражаным асобам—пацягнуць да судовай адказнасьці аўтара — паказывае, што ён мае дадзеныя, а мо' і дакумэнты, на падставе якіх так адкрыта выступіў з абвінавачаньнямі.

З сумам адзначаем, што кіраўнікі Віленскай Эпархіяльнай Улады паставілі сябе у такое становішча, пры якім нашае грамадзянства страціла пашану да нашае гіерархіі. Адсутнасьць гэтай пашаны да сваіх гіерархаў сама па сабе ўносіць дэмаралізацыю ў лоне верных, аслабляе і разбурае нашую Царкву.

Кіраўніком нашага царкоўна жыцьця, калі яны сапраўды аддзаны сьв. Праваслаўнай Веры, трэба **ўсенародна прынясьці пакуту у сва х грахох, адыйсьці ад кіраўніцтва як „недастойным“ і маліць Бога і просіць народ аб прабачаньні.**

---

# ХРОНІКА

**У газэце „Беларускі Звон“ ад 10 сакавіка 1931 год, № 5 быў надрукаваны наступны ліст.**

Шкоднае для царквы кіраўніцтва Віленскае Эпархіяльнае ўлады выклікала ў пачатку 1930 г. утварэньне Праваслаўнага Беларускага Камітэту. Зараз-жа па яго утварэньні старшыня і яго сябры пачалі абліваццa ў кансысторскай газэце „Наша Жизнь“ брудам. Гэту газэту Кансысторыя рассылала духавенству, прымусова спаганяючы праз яго грамадзкія грошы.

Такая дзеяльнась Кансысторыі пазбавіла магчымасьці супрацоўніцтва з ёю і канчальна выявіла воблік яе сяброў. Вынікам такога захаваньня Кансысторыі быў выпуск няведамымі Камітэту асобамі аднаднёвак, выпуск якіх сьвяшчэньнік А. Коўш публічна асудзіў у прэсе. Пасьля сябры Кансысторыі шмат разоў падсылалі да мяне сваіх людзей дзеля наладжэньня згоды. Шчыра жадаючы гэтае згоды, я працаваў у гэтым напрамку.

Надрукаванае ў № 38 „Dziennika Wileńskiego“ пісьмо трох прат.—Дзічкоўскага, Кушнёва і Беляева аб аўтарстве аднаднёвак пераконвае мяне, што прапануючы згоду, гэтыя людзі выявілі крывадушнасьць, фальш і правакацыю, чаму найлепшым доказам служыць наступная выпіска з атрыманага мною пісьма адна-

го пратаярэя: „У летку 1930 г. з мэтаю дыскрэдытаваць Вас прат. Кушнёў намаўляў мяне напісаць яму, або Кансысторыі, быццам Вы з сьвяш. А. Каўшом выдалі аднаднёўку „Проч з Ліхазельлем“, абяцаючы мне за гэта найлепшы прыход у япархіі і пагражаючы ў выпадку мае адмовы — мне карамі. Вось гэты факт прыпомніўся мне цяпер і высоўвае пытаньне, ці не правакуюць Вас гэтыя асобы, як хацелі справакаваць раней праз мяне“.

З гэтага пісьма відаць, што правакацыя проціў мяне падрыхтоўвалася яшчэ ў 1930 г. Пісьмо трох прат. лічу правакацыяй, бо быўшыя ў Кіршэўскага іншыя асобы катэгарычна пярэчаць, каб я гаварыў аб удзеле сьвяшч. А. Каўша ў аднаднёўках. Такая крывадушная дзейнасьць паасобных сяброў Кансысторыі і іх аднадумцаў служыць найяскраўшым доказам, што з імі немагчыма ніякая згода, і Камітэт павядзе з імі самую рашучую барацьбу.

З пашанай Т. В*ярнікоўскі*“.

**Прычыны пераводу псаломшчыка Ляшкевіча.** Ад пацярпеўшага атрыманы наступныя дадзеныя: Будучы псал. Віленскага катэдральнага сабору С. Ляшкевіч, былы афіцэр, між іншымі абавязкамі выконываў абавязкі і разсыльнага. Настаяцель сабору, ён-жа б л а г а ч ы н н ы, пр. Дічкоўскі, загадаў пс. Ляшкевічу даручыць пад „собственную распіску“ сьв. А. Каўшу пакет. З прычыны хваробы сьв. А. Каўша пакет ня мог быць даручаны пад яго асабістую расьпіску, а ня маючы права здаць пакет пад расьпіску членаў сям'і сьв. А. Каўша пс. Ляшкевіч прынёс яго назад бл. Дзічкоўскаму. Загадаўшы ні Ляшкевічу даручыць гэты-ж пакет, каму небудзь з членаў сям'і сьв. А. Каўша, што на другі дзень і было зроблена, бл. Дічкоўскі данёс Віленскай Кансысторыі, быццам жонка сьв. А. Каўша адмовілася прыняць пакет, і на гэтай падставе сьв. А Каўшу арх. Хвядосам было забаронена ў сьвяшчэннаслужэньні. Даведаўшыся аб такой падставе забароны ў сьвяшчэннаслужэньні, сьв. А. Коўш, узяўшы ад пс. Ляшкевіча пісьменнае пасьведчаньнь аб тым, што не магло быць і рэчы аб адмове жонкі сьв. А. Каўша прыняць пакет таму, што пс. Ляшкевіч ня меў права здаць яго ёй і маючы доктарскае пасьведчаньне аб сваёй цяжкай хваробе, пацягнуў бл. Дзічкоўскага да судовае адказнасьці за ілжывы данос. Каля трох гадзін Дзічкоўскі ўпрашываў, а калі гэта не памагало дык пагражаў Ляшкевічу, каб ён падтрымаў яго ілжу і адмовіўся ад таго правідловага пасьведчаньня, якое выдаў сьв. А Каўшу, але чэсны Ляшкевіч з прыкладнаю для другіх цывільнаю адвагаю адмовіўся ад гэтага. За такую цьвёрдасьць і чэснасьць пр. Дзічкоўскі дабіўся пераводу пс. Ляшкевіча з Вільні на правінцыю, дзе няма ні кватэры ні зямлі,—інакш кажучы, чэснага чалавека з жонкаю і трыма дзяцьмі, якіх ужо пара вучыць, за тое, што не падзяляе „палітыкі“ пасылаюць на голад. Такім чынам першы „справядлівы паступак“ Дзічкоўск. пацягнуў за сабою і другі, для дасягненьня гэтай мэты ён знайшоў сабе саюзьнікаў у асобах сяброў кансысторыі.

У яе загадзя за № 2345 віна пс. Ляшкевіча так і матывавана гісторыяй з вышэй успомненым злашчасным пакетам. Той-жа Ляшкевіч, апрача абавязкаў псаломшчыка і разсыльнага, у працягу 4 гадоў выконываў яшчэ абавязкі стоража пры саборы і ў працягу двух гадоў— вайсковага псаломшчыка. За выкананьне абавязкаў стоража пры саборы, разсыльнага і вайсковага псаломшычка Дзічкоўскі нічога Ляшкевічу не даваў. Таксама нічога ён не даваў Ляшкевічу і з зямельных даходаў, якія прыносяць штогодна ад 5000 да 6000 зл. даходу. Пс. Ляшкевіч патрабуе належнай яму часткі даходу з зямлі, а таксама аплаты працы за стоража, разсыльнага і вайсковага псаломшчыка. Кансысторыя павінна задаволіць справядлівыя яго дамаганьні.

**Рэмонт Царквы Віленскага Троіцкага Манастыра.** Міністэрствам Рэлігіі і Асьветы было адпушчана на рэмонт Царквы Троіцкага манастыра 24.000 зл. На

гэтую суму пазалочаны крыж, памаляваны кулал, мейсцамі залатаны і падмаляваны дах і рыны.

Унутры Царквы нічога ня робіцца. Заклікаем усіх паглядзець на Троіцкую Царкву, ці праўду мы пішам. Рэмонт праводзіў рэктар сэмінарыі пратаіерэй Тучэмскі. Акт прыйма рэмонту падпісаны праз таго-ж прат. Тучэмскага, эканома Кедрова і былога сэкрэтара сэмінарыі, а сяньня Кансысторыі, Сьняжынскага. На 24.000 зл. можна пабудаваць новую Царкву!!!

**Справа рэктара сэмінарыі пр. Тучэмскага.** Служ. Віленскае Праваслаўнае Сэмінарыі зложана Беларускаму Праваслаўнаму Камітэту абшырная заява аб „дзейнасьці“ рэктара а. Тучэмскага. Копію з гэтае заявы Камітэт паслаў у Кураторыюм і ўладам судовым. 1 чэрвеня пр. Тучэмскі быў выкліканы у Кураторыюм, дзе у працягу $3^1/_2$гадзінаў складаў пратакулярнае выясьненьне.—

Апрача грашовых справаў, выкрыты ня зусім згодныя з праўдаю даклады у Кураторыюм і г. д. Ня лішнім будзе дадаць, што пр. Тучэмскі „дапамог“ у сваім часе пр. Кушнёву у справе ліквідацыі апошнім эпархіяльнага складу. Як ведама, ня гледзючы на вынікі рэвізыйныя пр. Тучэмскі знайшоў што „всё обстоит благополучно“.—

**Шыла з мешка лезе наверх.** Прат. М. Кушнёў і пісар Лекант выдаюць сябе за „тоже белоруссов.“

У беларускім календары за 1922 г. адзначана, што пр. Кушнёў зьяўляецца „заўзятым чорнасоценцам, непрыяцелем беларускага руху. Гэтак-жа і пісар эпархіяльнае Рады—Лекант.“ З гэтага відаць, што названыя асобы яшчэ з 1922 году афіцыяльна значацца у беларусаў чорнасоценцамі і ворагамі беларускага народу і калі цяпер і падшываюцца пад „белорусов“, дык каб толькі шкодзіць ім.

**80.000 зл.** У 1930 г. Віленская Духоўная Кансысторыя мела даходу 80.000 зл. Пры вымагаючых безадкладнага рэмонту сьвятыняў, адсутнасьці ў іх неабходных для выкананьня службы богаслужэбных рэчаў, праз царкву Кансысторыя сьцягнула з праваслаўнага насельніцтва 80.000!

Вураднікі і сябры Кансысторыі атрымоўваюць пэнсыю ад Ураду, і куды гэтая сума пайшла, няма ведама Кожная установа дае грашовую справаздачу, толькі Віленская Кансысторыя лічыць сябе вольнаю ад гэтага. Гэтак робіцца штогодна. З царквоў, духавенства і народу спаганяюцца значныя сумы, а навошта яны выдаюцца — кансысторская таямніца.

Гаспадарчым (грашовым) сталом у кансысторыі ведае знаны па ліквідацыі эпархіяльнага складу пр. Кушнёў.

Гэты самы пр. Кушнёў прапанаваў Старшыні Бел. Прав. Камітэту, Т. Вернікоўскаму, аблажыць кожнага сьвяшчэньніка па 3 зл. у месяц на выданьне „Сьветача Беларусі“ з тым, зразумела, каб „Сьветач Беларусі“ падтрымоўваў дзеяльнасьць кансысторыі і ў першую чаргу самого пр. Кушнёва, але гр. Вернікоўскі з агідаю адкінуў прапазыку пр. Кушнёва.

Гэтая прапазыка пр. Кушнёва служыць яскравым доказам, чаму гэта газ. „Наша Жизнь“ так бараніла дзеяльнасьць кансысторыі і яе сяброў, а лаяла сяброў Камітэту і асобаў, крытыкуючых дзеяльнасьць пр. Кушнёва.

**Паважаны грамадзянін Рэдактар.** Прашу надрукаваць у Вашай паважанай газэце некалькі слоў. Што зрабіла Вышэйшая Духоўная Улада з чырвоным благачынным Даўгінаўскага Благачыньня, сьвяшчэньнікам Я Спрогісам.

Ці-ж ён яшчэ сядзіць на благачыньні? Ці-ж ня сорам яго яшчэ трымаць? Ці ведае аб усім гэным арх. Хвядос? Калі ведае, дык ці-ж яму мала яшчэ доказаў, якімі напоўнены газэты, як беларускія, так і польскія—проціў чырвонага бацюшкі Я Спрогіса... Калі далей Духоўная Улада ня зьверне увагі на голас народу і ня ўсуне чырвонага бацюшкі, дык мы мусім шукаць другой дарогі, каб пазбавіцца ад былшага чырвонага піянэра, а цяпер благачыннага Спрогіса.

З пашанаю: Праваслаўны Беларус

*М. Касяк.*

Рэдар У. БІЛЬДЗЮКЕВІЧ. Выд. Цэнтр. Беларускі Праваслаўны Камітэт.
Друкарня У. Знамяроўскага, Вільня, Квашэльная 23

## Пiлiп Марозаў не зацьверджаны эпархiальным мiсiянэром.

Як падае газэта за „Свободу" у № 163 ад 23 VI г. г. Пiлiп Марозаў не затверджаны Блажэньняйшым Мiтрапалiтам Дзянiсам на пасадзе Вiленскага эпархiяльнага мiсiянера. Такi крок мiтрап. Дзянiса Бел. Прав. Грамадзянства павiнна толькi прывiтаць, бо такiя мiсiянэры, як Марозаў, толькi зьневажаюць беларускi народ.